**Да заканчэння падпіскі на «Народную Волю» на першую палову 2015 года — тыдзень. Не спазніцеся!**

www.nv-online.info

# Народная Воля

№99 (3942)

19 снежня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ОТКРЫТАЯ ТЕМА

# Белорусская Православная Церковь ставит вопрос о статусе самоуправления

По всей видимости, мы стоим на пороге новой эпохи в истории белорусского православия.

В Минске прошло очередное Минское епархиальное собрание, или иначе — Собрание духовенства Минской митрополии, что, в принципе, не одно и то же, хотя по букве устава может и совпадать. Трудно сказать, правда, насколько слово "очередное" применимо к событию, которое при предыдущем митрополите происходило, теперь уже вопреки уставу, не чаще раза в десятилетие. А тут еще и подкатившая волна кадровых перемен в церковном руководстве. Так что пока для нас это не рутина, а нечто эпохальное. И, как увидим дальше, неспроста.

Неспроста было уже то, что приурочено оно было к таким юбилеям, как 25-летие создание Белорусского Экзархата и 30-летие установления празднования Собора Белорусских святых.

Уже чисто внешне собрание не походило на все предыдущие. Мало того, что новый архиерей, так еще и не единственный архиерей. Патриаршая стратегия дробления епархий коснулась наконец и Беларуси: митрополит Павел решился на соответствующие реформы менее чем через год после назначения. Собственно Минская епархия, включавшая ранее Минск и Минскую область, сузилась до Минска и Минского района, всю же оставшуюся часть поделили между собой новые три епархии. То, что было раньше Минской епархией, стало именоваться митрополией, и духовенство всей этой митрополии, прежде чем разъехаться по отдельным епархиальным квартирам, собралось в последний раз вместе. Впрочем, в конце собрания прозвучали предположения, что, может, и не в последний раз — будем дружить семьями.

Собрание шло по обычному сценарию: доклад, выступления, ответы на вопросы...

И хотя уже доклад митрополита содержал в себе много нового и интересного, самое интересное произошло дальше, причем как-то исподволь, как будто случайно. Уже заканчивая ответы на вопросы, поступившие с мест, митрополит попросил "еще пять минут", чтобы ответить еще "на два вопросика". И вдруг в одном из "вопросиков" пресловутое "разукрупнение" епархий неожиданно предстало "формой эффективного управления, когда Белорусский Экзархат придет к самоуправлению по примеру Украины, Эстонии и т.д.". Но эти сами по себе необычные слова, как оказалось, стали только поводом для эпохального заявления митрополита: **"Смотрите: в Эстонии два епископа — самоуправляемая церковь, в Латвии два епископа — самоуправляемая, в Молдове пять епископов — самоуправляемая, у нас 16 епископов — мы не самоуправляемая. Где-то даже обидно становится. Так что я буду, наверное, поднимать этот вопрос. Даже не знаю, какая будет реакция и решение, но поскольку мы..."** И здесь слова митрополита буквально потонули в овациях. Когда аплодисменты стихли, митрополит Павел еще увереннее продолжил: **"Спасибо за поддержку... Двадцать лет назад меня это не задевало, сегодня меня это задевает, потому что здесь уже честь Белорусской Православной Церкви** *(снова аплодисменты).* **Сегодня Русская Православная Церковь, которая находится территориально в границах Российской Федерации, — это, сами понимаете, мощная церковь, Украинская Православная Церковь тоже мощная церковь, а третья-то идет Белорусская! Поэтому, конечно, если с вашей стороны будет поддержка, вопрос этот будем поднимать, если с вашей стороны будут направлены еще и пожелания и письма, тогда будем обсуждать, тогда будем выносить этот вопрос на решение Синода. Я сторонник того, чтобы Белорусская Православная Церковь была мощная крепкая, но, как вы сами понимаете, здесь никто из нас не собирается выходить из-под омофора Русской Православной Церкви, ни в коем случае... У нас был патриарх, есть патриарх, поэтому давайте жить в тех условиях, исполняя дух и традиции нашей церкви. Но некоторые моменты будем все равно продвигать..."**



Дальше — больше. Случайная, казалось бы, ремарка митрополита, горячо поддержанная собранием, не прошла пустым звуком, но нашла отражение в Итоговом документе собрания одним из его пунктов:

***"Просить Высокопреосвященнейшего митрополита Павла поставить перед Синодом Белорусской Православной Церкви вопрос о возможности предоставления Белорусской Православной Церкви статуса самоуправляемой церкви в составе Русской Православной Церкви".***

В завершение митрополит Павел снова прокомментировал пожелание поднять этот вопрос, *"поскольку он действительно волнует многих". "Это не мой вопрос, не только моя озабоченность, а очень многих людей — и священников, и мирян, и руководителей государственных структур. Ну, вы знаете, здесь, видимо, проявляется такое вот щепетильное чувство, внутреннее такое чувство достоинства нашей церкви, нашего государства: соседи получили такой самоуправляемый статус, а мы, церковь большая, нет. То есть это не попытка какая-то узурпировать власть, себе что-то перехватить, нет, это достойное стремление занять достойное место в иерархии нашей церкви".*

Возможно, кого-то смутит, что в Итоговом документе предполагается ставить вопрос перед Синодом БПЦ, а не сразу перед тем органом, который компетентен его решать, — Синодом Русской Православной Церкви. Суть в том, что митрополит Павел может, конечно, огласить и обсудить этот вопрос на Синоде РПЦ, что он, по его словам, и собирается делать, но уставная процедура требует такой вопрос ставить официально от имени Синода Белорусской Церкви, поэтому сначала должно быть его согласие и постановление. При этом есть и определенная процедурная сложность. Все решения и постановления Синода БПЦ вступают в силу только после утверждения их Синодом РПЦ. Получается, что Синод РПЦ вправе не утвердить действительность прошения белорусской стороны. Поэтому, конечно, практически все зависит от способности митрополита Павла убедить московский Синод благожелательно принять прошение о статусе самоуправления Белорусской Православной Церкви.

**Интернет-портал "Царква".**

РЭБУС

## Што хацеў сказаць Сурыкаў?



Расійскі пасол Аляксандр Сурыкаў так выказаўся ў падтрымку Аляксандра Лукашэнкі, што цяпер палітолагі спрабуюць разгадаць намёкі.

*"На дадзены момант кіраўнік Беларусі не выказаў жадання балатавацца ў прэзідэнты. І я нешта сумняваюся, што ён пойдзе. Але калі пойдзе, то я яго асабіста як чалавек падтрымаў бы",* — заявіў дыпламат на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

І ўсе задумаліся.

Справа ў тым, што пра намер балатавацца на чарговых выбарах Аляксандр Лукашэнка гаварыў амаль адкрыта. І да Сурыкава ніхто не падаваў ніякіх знакаў, што можа быць інакш. Дык што ж азначае гэта выказванне?

МЕРКАВАННЕ

## Зашмат?

Палітолаг Андрэй Суздальцаў, які ўжо каля дзесяці гадоў жыве ў Маскве, так "расшыфраваў" намёк:

— Для расійскага палітычнага класа, нават для левага яго крыла, пяты прэзідэнцкі тэрмін — гэта гучыць дзіка, — сказаў Суздальцаў. — Такія рэчы ў Расіі нават у свядомасць не ўкладваюцца. Таму тут Сурыкаў выказаў такое меркаванне: маўляў, зашмат.

ДЫПКУР'ЕР

## Спраўдзіцца, не спраўдзіцца?

Перамовы Беларусі і ЕС могуць прывесці да таго, што візы для беларускіх грамадзян стануць больш танныя.

Такое меркаванне выказала кіраўнік прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Беларусі **Майра Мора.**

*"На пачатку 2015 года адбудзецца чарговы раўнд перамоў паміж Беларуссю і ЕС па візавых пытаннях,* — паведаміла дыпламат. — *Спрашчэнне візавага рэжыму можа ўключаць у сябе пытанне "шэнгена", зменяцца патрабаванні да пакетаў дакументаў, стане больш катэгорый грамадзян, якія будуць вызвалены ад візавых пошлін. Акрамя таго, магчыма павелічэнне тэрміну дзеяння віз для людзей з добрай візавай гісторыяй".*

Кіраўнік прадстаўніцтва ЕС адзначыла, што кожны этап перамоў прыводзіць да канкрэтных вынікаў, але агучваць пазіцыі бакоў і прынятыя дамоўленасці пакуль яшчэ нельга.

З НАТУРЫ

## «Валюты няма...»

Чацвер, 16.15. Сталічны філіял №511 "Беларусбанка". У аперацыйнай зале чалавек 40. Працуюць толькі тры касы. Чарга прасоўваецца марудна. Атмасфера напаляецца. Супрацоўніцы-кансультанты ледзь-ледзь супакойваюць жарсці кліентаў. Людзей выводзіць з раўнавагі не толькі тое, што губляецца шмат часу ў чарзе, але галоўным чынам тое, што ў банку няма валюты. Раз-пораз чуваць дыялог:

— Долары ёсць?

— Долараў няма.

— А еўра ёсць?

— І еўра няма.

— А калі будуць?

— Не ведаем...

Вось так. Яшчэ, здаецца, пазаўчора можна было спакойна набыць адну і другую валюту, а сёння — глуха. Да Мінска дакацілася маскоўскае рэха.

Што чакае Беларусь заўтра?

Што чакае Беларусь праз тыдзень?

Што чакае Беларусь праз месяц?

Што чакае Беларусь праз год?

Мабыць, ніхто не ведае.

**Сяргей БУСЛАЎ.**

УЧОРА

# Праз доўгія чатыры гады...

Эдуард Лобаў раніцай 18 снежня выйшаў на волю з калоніі №22, якую ў народзе называюць "Воўчыя норы". У Івацэвічы сустракаць хлопца з'ехаліся яго бацькі, сябры і журналісты.

Нагадаем: чатыры гады таму, 18 снежня 2010 года, Лобава затрымалі ў двары жылога дома, што на вуліцы Янкі Брыля. Ён быў разам з двума сваімі паплечнікамі, адзін з іх — будучы "падзельнік" па крымінальнай справе Зміцер Дашкевіч. Тое, што адбылося ў той вечар, назіральнікі аднагалосна назвалі правакацыяй, а затрыманне хлопцаў ацанілі як прэвентыўнае затрыманне напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. На судзе хлопцы распавядалі, што ў двары дома да іх падбеглі нейкія мужчыны, збілі з ног, пачалі збіваць. Мінакі прасілі мужчын спыніцца і нават выклікалі міліцыю. Надзвычай хутка пад'ехала машына і адвезла ўсіх удзельнікаў інцыдэнту ў пастарунак. Праз некалькі дзён Дашкевічу і Лобаву паведамілі, што мужчын, якія на іх напалі ў двары дома, прызналі... пацярпелымі. Потым падчас суда пацярпелыя Канстанцін Савіцкі і Алег Малышаў давалі паказанні ў асобным пакоі, хаваючы ад людзей свае твары. Суддзя Алена Шылько пагадзілася з абвінавачаннем міліцыі — асоба злоснае хуліганства — і пакарала Эдуарда Лобава чатырма гадамі пазбаўлення волі. І вось яны прайшлі, гэтыя гады. Як кажуць, ад званка да званка.

Эдуард распавёў, што яму тройчы прапаноўвалі падаць прашэнне на імя Аляксандра Лукашэнкі аб памілаванні, але ён адмовіўся. "Народная Воля" павіншавала былога палітвязня з вызваленнем і задала яму некалькі пытанняў.

**— Не шкадуеш, што адмовіўся падаць прашэнне?**

*— Ды не, гэта мая прынцыповая пазіцыя. Падаць прашэнне — гэта тое самае, што прызнаць сябе вінаватым. Я ніякага злачынства не здзейсніў.*

**— У калоніі адчувалася нейкае іншае стаўленне да "палітычных"?**

*— Асабліва не адчувалася. Там да палітычных ставяцца нармальна. У асноўным на зоне да мяне ставіліся нармальна.*

**— Цяпер будзеш больш асцярожным, тым больш што зноў настае год прэзідэнцкіх выбараў?**

*— Нічога для мяне не змянілася. Я па-ранейшаму ў "Маладым фронце"* (нагадаем, што гэтая арганізацыя зарэгістравана ў Чэхіі. — **Рэд.**) *і буду ўдзельнічаць ва ўсіх кампаніях і акцыях, якія будзе праводзіць наша арганізацыя.*

**— Але ў выніку моцных рэпрэсій пасля апошніх прэзідэнцкіх выбараў шмат хто з'ехаў за мяжу, шмат хто з тых, якія засталіся тут, папросту не бачаць сэнсу ўдзельнічаць у апазіцыйных акцыях. Што ты думаеш на гэты конт?**

*— Я, па-першае, хачу пажадаць як мага найхутчэйшага вызвалення ўсім палітвязням! Жадаю ім пабачыцца са сваякамі і сябрамі! Здароўя жадаю ім і нам усім!*

*Па-другое, я раю людзям не губляць аптымізму і быць больш актыўнымі ў жыцці грамадства, бо ўсё залежыць ад нас саміх.*

Мы віншуем Эдуарда Лобава з вызваленнем і нагадваем, што за кратамі застаюцца яшчэ пяць палітвязняў: экс-кандыдат на пасаду прэзідэнта Мікола Статкевіч, анархісты Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Яўген Васьковіч і Арцём Пракапенка.



**Любоў ЛУНЁВА.**

СКАЗАНА!

## Слова за Мінскам

*ЗША адкрыты для паляпшэння адносін з Беларуссю, але не адмаўляюцца ад сваіх прэтэнзій і патрабаванняў да ўрада гэтай краіны, перш за ўсё ў праваабарончай галіне.*

Гэта пацвердзіла, выступаючы ў Амерыканскім прадпрымальніцкім інстытуце ў Вашынгтоне, профільны памочнік дзяржсакратара ЗША **Вікторыя Нуланд.**

Яна выказала меркаванне, што "мяч" цяпер на баку беларускіх улад.

*"Мы ўжо шмат гадоў падтрымліваем дыялог з урадам Беларусі наконт нашай занепакоенасці сітуацыяй з правамі чалавека, палітычнымі ўмовамі для праявы іншадумства",* — патлумачыла яна.

*"На працягу апошняга года мы назіраем, што беларускае кіраўніцтва вельмі няўтульна сябе адчувае перад тварам бінарнага выбару,* — заўважыла Нуланд. — *Я сустракалася ў верасні на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН з прэм'ер-міністрам Беларусі і казала яму, што яны шмат зрабілі для сваёй краіны, ператварыўшы назву Мінска ў сімвал мірнай дамоўленасці".*

*"Мы па-ранейшаму адкрыты для больш цёплых і інтэграваных ўзаемаадносін з Беларуссю пры паляпшэнні праваабарончай сітуацыі,* — працягвала Нуланд. — *Мы выказалі ўраду Беларусі шэраг канкрэтных меркаванняў. Нам удалося зрабіць некалькі маленькіх сумесных крокаў: мы зараз зноў выдаем там візы на ўзаемнай аснове".*

*"Але зноў-такі ўсё гэта знаходзіцца ў руках іх кіраўніцтва,* — падагульніла свае развагі дыпламат. — *Ці хоча яно павесці сваю краіну ў кірунку большай адкрытасці і дэмакратычнасці? Мы б, вядома, былі гатовы на гэта адгукнуцца".*

ВОСТРАЯ ПРАБЛЕМА

# Што будзе з беларускім рублём?

***Учора Аляксандр Лукашэнка супакоіў беларусаў: услед за Расіяй мы не пабяжым і дэвальваваць нацыянальную валюту не будзем.***

***Тым не менш карціна ў сталічных абменніках і банках не змянілася: чэргі за валютай захоўваюцца, колькасць жадаючых зняць рублёвыя дэпазіты або перавесці іх у валютныя не змяншаецца.***

***Што будзе з беларускім рублём на фоне абвалу расійскага? Як расцэньваць словы Аляксандра Лукашэнкі, што дэвальвацыі не будзе, але ў той жа час усё ў руках грамадзян? "Хочаце абвалу — бегайце па абменніках", — сказаў учора кіраўнік дзяржавы.***

***Мы паспрабавалі знайсці адказы на гэтыя пытанні, якія хвалююць літаральна кожнага беларуса.***

*Нават далёкія ад банкаўскай сферы людзі разумеюць, што паніка сярод насельніцтва абгрунтаваная. Па-першае, за 2014 год расійскі рубель абясцэніўся да долара прыкладна на 80 працэнтаў, а беларускі — толькі на 15. А наша эканоміка вельмі цесна завязана на расійскі рынак. Па-другое, народ памятае 2011 год, калі беларускі рубель абваліўся амаль у тры разы на фоне заяў высокапастаўленых чыноўнікаў аб тым, што "цалкам выключаецца карэкціроўка абменнага курсу". Беларусы, якія захоўвалі грошы на дэпазітах у рублях, страцілі немалыя сумы. Рызыкаваць ізноў ніхто не хоча.*

— Ажыятаж ёсць, — *кажа высокапастаўлены супрацоўнік аднаго з дзяржаўных банкаў краіны — "Белаграпрамбанка"*. — Але здымаць рублёвыя дэпазіты ці перакладаць іх у валютныя кінуліся самыя нервовыя кліенты і тыя, хто на ўкладах зарабляе. Сярэднія і буйныя кліенты імкнуцца больш узважана ацэньваць сітуацыю. Скажу шчыра, яшчэ дзень таму ў нас таксама былі здагадкі, што дэвальвацыя будзе. Але пасля заявы Аляксандра Лукашэнкі аб тым, што Беларусь не пабяжыць за Расіяй, і яго патрабавання перавесці ўсе разлікі з Расіяй у валюту — прагнозы змяніліся. Усё ж такі гэта заява кіраўніка дзяржавы! Не думаю, што пасля такіх абяцанняў у бліжэйшы час здарыцца аднамомантная дэвальвацыя.

Што тычыцца чутак, што ў банках хутка не стане долараў і еўра, — гэта, хутчэй за ўсё, наступствы панікі. У абменных пунктах захоўваюцца, як мы кажам, "мёртвыя" грошы — сярэднестатыстычныя сумы, каб забяспечыць патрэбнасць насельніцтва ў валюце (людзі едуць у камандзіроўкі, на адпачынак і г.д.). Калі пачынаецца ажыятаж і колькасць жадаючых купіць валюту павялічваецца, банкі не паспяваюць за попытам. Але гэта сітуацыя аднаго-двух дзён, пакуль, як кажуць, валюту не падвязуць. У банках ёсць сродкі, каб папоўніць запасы валюты ў абменных пунктах. Так што не варта паддавацца паніцы, губляць час на чэргі і біцца за валюту.

*Аднак незалежныя эксперты ў сваіх прагнозах менш аптымістычныя.*

*"Я раіў бы беларусам слухаць прэзідэнта і рабіць па-свойму", — кажа былы міністр эканомікі, а цяпер кіраўнік Бізнес-саюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў імя Куняўскага* ***Георгій Бадзей.***

— Беларуская эканоміка нясе велізарныя страты ад таго, што дэвальваваны расійскі рубель, — *выказвае сваё меркаванне Георгій Пятровіч.* — Для нас непад'ёмна, калі расійская валюта абясцэньваецца на 50 працэнтаў, не кажучы пра цяперашнія 80. Таму што мы не толькі недаатрымліваем валютную выручку, але і нашы тавары становяцца неканкурэнтаздольнымі на расійскім рынку, яны становяцца там дарагімі.

Паводле афіцыйнай статыстыкі, прыкладна 45% беларускага экспарту — гэта экспарт у Расію. Нас супакойваюць, што, маўляў, мы паменшылі залежнасць ад аднаго рынку. Але трэба мець на ўвазе, што ў экспарце на Захад пераважаюць сыравінныя рэсурсы — нафтапрадукты і калій, а экспартная прамысловая прадукцыя практычна ўся — працэнтаў 80 — прадаецца ў Расію. Калі мы не хочам, каб нашы прадпрыемствы працавалі сабе ў страту, курс беларускага рубля да расійскага павінен адпавядаць таму, які быў на пачатку года.

І другі фактар. Наступны год — пікавы па выплатах даўгоў па крэдыце МВФ. На выплату даўгоў пойдзе 4,8 мільярда долараў, а золатавалютных рэзерваў у краіне — 6 мільярдаў. Рэзервы практычна адсутнічаюць. Каб краіне жыць, трэба альбо зарабляць, альбо браць новыя даўгі.

Увогуле, няма падстаў лічыць, што беларускі рубель не пачне свайго падзення. Пытанне толькі ў тым, будзе гэта дэвальвацыя аднамомантная або перманентная. Паўзучая дэвальвацыя псіхалагічна пераносіцца лягчэй. Але калі рубель нават кожны дзень будзе дэвальвавацца на 1%, то што мы атрымаем да канца 2015 года?

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
19 СНЕЖНЯ 2014 г.

ПОЗИЦИЯ

# Зачем играть с огнем?

*(Делегатам Конгресса в защиту независимости Беларуси)*

Нас радует забота организаторов Всебелорусского Конгресса в защиту независимости об общем достоянии белорусского народа, который на протяжении столетий ценой колоссальных усилий, жертв и страданий создавал свою государственность. Суверенная, независимая и современная Беларусь возникла не только в силу развала Советского Союза, но и потому, что имела, отсчитывая от времен существования Полоцкого княжества, мощное историческое основание. Республика Беларусь — не случайная страна на карте Европы, и ее независимость не может быть подвергнута сомнению, хотя подобные поползновения, к сожалению, иногда проявляются на постсоветском пространстве. В этой связи напомним, что уже в период Великого Княжества Литовского (1320—1380 гг.), то есть еще до союза с Речью Посполитой (1386 г.), в него входили земли Литвы, Киевское, Волынское, Черниговское княжества, Подолье (Таврида, Херсон), Брянск, Ржев, Белый, Мстислав, Новгород, Смоленск и иные западные и восточные территории. Сегодня все это не наши земли, и белорусы не в претензии. Но мы должны придерживаться исторической правды, когда говорим о независимости и угрозах для современной Беларуси.

Правда и то, что в 1316 году, когда на великокняжеский престол вступил Гедимин, он именовался Великим князем Литовско-Русским. Эта правда еще раз подтверждает нашу историческую самобытность, связанную не столько с Московским княжеством, а прежде всего с Киевской Русью, а значит, с нынешней Украиной. Ни в коем случае мы не хотим противопоставлять прошлое современным межгосударственным отношениям. Однако мы должны опираться в том числе на исторические факты, отстаивая настоящее и будущее своей страны.

Известно, что угрозы суверенитету больше исходили из географического положения нашего народа, находящегося на цивилизационном стыке. В далеком прошлом союзные объятия ВКЛ с Речью Посполитой со временем ухудшили государственность княжества, вплоть до того, что в 1696 году польский сейм отменил использование белорусского языка в качестве государственного. Впоследствии тройственный раздел Речи Посполитой полностью добил государственность ВКЛ. Наши территории были включены в состав царской России. В этой связи, рассматривая развитие современных отношений с восточной соседкой, понятна тревога устроителей Конгресса в части угрозы независимости и суверенитету Беларуси. Однако в проекте "Манифеста" угроза суверенитету неправомерно сводится прежде всего к внешним факторам и обстоятельствам, с чем мы категорически не согласны.

Так в чем прежде всего заключается угроза суверенитету Республики? Ответ очевиден: в экономической и финансовой несамостоятельности! Сохранив преимущественно административную экономику как советское наследие, Беларусь остается слабоконкурентоспособной. Ее товарный экспорт, исключая нефть и ее продукты, калийные удобрения, направлен в основном в Россию, отчасти в Украину, поскольку на других рынках белорусские товары неконкурентные или слабоконкурентные. Товарная зависимость — это первая угроза независимости (что мы и наблюдаем в виде регулярно повторяющихся торговых войн). Вторая угроза — высокозатратная, нереформированная экономика. Третья — мы на сто процентов получаем энергоресурсы из России. Четвертая угроза — абсолютная зависимость от прямых российских дотаций (в том числе через цены на газ и нефть), а также от внешних заимствований. Можно еще перечислять, но и так ясно, что пришла пора ликвидировать шаг за шагом самую главную угрозу нашей независимости — экономическую и финансовую несамостоятельность. Сигнал SOS прозвучал и звучит с Украины. Страна нуждается в Новой политике!

Мы и оргкомитет по созданию РОПО "Социал-демократы за диалог и консолидацию" убеждены, что Новая политика государства, основанная на диалоге между обществом и государством, элитой и контрэлитой (властью и оппозицией), позволит безотлагательно начать евроремонт нашего дома, что в свою очередь будет способствовать позитивной перспективе развития Евразийского союза и его взаимодействию с Евросоюзом. Дальновидные политики на Западе и Востоке давно видят подобную геополитическую перспективу и говорят об "интеграции интеграций". Нужно уходить от логики противостояния и создавать общее пространство от Лиссабона до Владивостока. В конечном счете все это приведет к интеграционному переплетению и конвергенции настолько, что в будущем сложно будет отличить Евразийский союз и Евросоюз друг от друга.

Осуществляя Новую политику и размораживая отношения с Западом, страна будет становиться более самодостаточной. Беларусь станет ближе к Европе: европейским стандартам, правилам и ценностям. Стратегия развития страны станет единой как для элиты, так и для контрэлиты. Топор войны по проблеме противоположных интеграционных устремлений будет зарыт. Белорусские элиты смогут консолидированно содействовать диалогу между Западом и Востоком. В ходе устранения геополитических напряженностей и противоречий будет снята многовековая дилемма для Беларуси (и не только для нас): Запад или Восток. И самое главное: наконец-то прекратится торговля страной на геополитических качелях Запад—Россия. Беларусь перестанет быть полигоном (как сегодня происходит в Украине) для выяснения отношений геополитических игроков и превратится в мост дружбы между Западом и Востоком, югом и севером.

И в заключение главный вопрос авторам "Манифеста". Разве наша экономическая и финансовая несамодостаточность, а также товарная неконкурентоспособность исчезнут, если Беларусь расторгнет Договор о Евразийском экономическом союзе? Конечно, нет! Наоборот, в стране быстро, в течение нескольких месяцев, наступит хаос и экономический коллапс. Предложение расторгнуть Договор (а оно артикулировано в проекте "Манифеста") сродни запалу, способному взорвать ситуацию и уничтожить веками выстраданные нашим народом основы независимости Беларуси. Авторы "Манифеста", видимо, не хотят замечать, с чего начались трагические события в Украине, либо умышленно (неумышленно) провоцируют белорусское общество на радикальщину, политические и экономические потрясения, преследуя свои корпоративные цели. Зачем они играют с огнем?!

Для стабильного развития Беларуси с учетом глобальных интеграционных процессов, а также текущей геополитической напряженности все же не стоит шарахаться то ли на Запад, то ли на Восток и тем более не следует бездумно подскакивать на западно-восточных геополитических качелях. При всей нашей критике власти она действует более осторожно, прагматично и ответственно. В связи со сказанным, предлагаем исключить из проекта "Манифеста" пункт: *"Требуем от власти расторгнуть Договор о Евразийском экономическом союзе".* Добавить: **"Требуем приступить к выработке и осуществлению Новой политики, в частности, проведению комплексных экономических реформ для достижения высокой конкурентоспособности, финансовой, энергетической и иной независимости. Требуем политических реформ с обеспечением честных и справедливых выборов, реальной политической конкуренции полновластного парламента, независимого суда, свободы СМИ, освобождения политзаключенных, значительного снижения коррупции как фундаментальных основ укрепления суверенитета и независимости Республики Беларусь".**

**Иван АНТАШКЕВИЧ.**
**Анатолий ЛЕВКОВИЧ.**

ЧУЛІ?

## Дасталі...

*Абурэнне грамадства тым, што паказваюць па расійскіх тэлеканалах, дайшло нарэшце і да Палаты прадстаўнікоў.*

Так, дэпутат **Валянціна Жураўская** папрасіла Міністэрства інфармацыі звярнуць увагу на тэлеканал "НТВ", які ўваходзіць у абавязковы сацыяльны пакет. Паводле слоў спадарыні Жураўскай, *"людзі скардзяцца на вялікую колькасць гвалту і крыві ў эфіры канала".*

— Гэта проста крык душы! — такія словы Галіна Жураўская адрасавала міністру інфармацыі **Ліліі Ананіч.** — Такі тэлеканал, як "НТВ", спецыяльна распрацаваны і функцыянуе, каб забіваць усё чалавечае ў моладзі і дарослага пакалення.

Міністр на гэтыя прэтэнзіі толькі заўважыла, што сапраўды трэба больш уважліва ставіцца да кантэнту тэлеканалаў.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Рашэнне аб высылцы з Беларусі Алены Танкачовай пакінута без змен

*Кіраўнік Цэнтра прававой трансфармацыі Lawtrend Алена Танкачова па-ранейшаму сядзіць на чамаданах. Улады не хочуць бачыць яе ў нашай краіне, хаця Алена пражыла ў Беларусі ўсё свядомае жыццё.*

— Я была запрошана ў аддзел па грамадзянстве і міграцыі ГУУС Мінгарвыканкама, для таго каб азнаёміцца з матэрыяламі справы і, уласна, мець магчымасць падаць поўны тэкст скаргі, — распавяла Алена Танкачова. — Аднак, калі я прыйшла ў міліцыю, мне ўручылі апавяшчэнне пра тое, што яшчэ 12 снежня было прынята рашэнне пакінуць у сіле пастанову Першамайскага РАУС Мінска. Нагадаю, у ім утрымлівалася рашэнне аб маёй высылцы з Беларусі і забарона на ўезд у краіну на тры гады. Гэта значыць, што ні адзін з аргументаў, якія былі прыведзены ў скарзе адносна непрапарцыянальна прынятага рашэння, няправільнай ацэнкі фактычных абставін і гэтак далей, не былі прыняты да ўвагі.

ТЫМ ЧАСАМ...

## Спатканне Мікалая Статкевіча з жонкай

*Жонцы экс-кандыдата ў прэзідэнты Міколы Статкевіча дазволілі двухгадзінную сустрэчу з мужам. Марына Адамовіч расказала:*

— Спадзяюся, што ў гэтай турме гэта было апошняе спатканне. Менш як праз месяц у Міколы заканчваецца трохгадовы тэрмін знаходжання ў турме, і ён мусіць быць пераведзены ў адну з калоній (пакуль не вядома, якую). Гэта было традыцыйнае двухгадзіннае спатканне, якое я маю два разы на год. На маё ўражанне, Мікола не змяніўся, ён такі ж самы, як і быў. Вельмі ясныя і светлыя вочы. Няма ніякіх расчараванняў, стомленасці, зняверанасці. Як і раней, ён упэўнены ў сабе, вельмі моцны і мужны, з абсалютна дакладным разуменнем таго, што ён робіць, дзеля чаго і на што яшчэ ён гатовы пайсці дзеля сваіх перакананняў. З нагоды розных захадаў з розных бакоў наконт таго, каб Мікола напісаў прашэнне аб памілаванні, ён сказаў, што нельга адной паперкай перакрэсліць усё жыццё і гэтага ён не зробіць ніколі.

РЭЙТЫНГ

## Беларусь з'яўляецца адной з самых ваенізаваных краін свету

*Па ўзроўні мілітарызаванасці ў "Глабальным індэксе мілітарызацыі — 2014" Беларусь заняла 11-е месца сярод 152 краін. Ва Усходняй Еўропе Беларусь і Расія ўвогуле з'яўляюцца самымі мілітарызаванымі.*




У сусветным рэйтынгу Расія апынулася на 5-м месцы, Украіна — на 13-м, адстаўшы ад Беларусі на дзве пазіцыі, Літва — на 58-м, Польшча 74-я. Лідар рэйтынгу — Ізраіль.

Найменш мілітарызаваныя краіны свету — Ісландыя, Панама, Коста-Рыка і Гаіці.

Глабальны індэкс мілітарызацыі адлюстроўвае вагу і важнасць ваеннага апарату ў эканамічнай структуры краіны. У прыватнасці, ён разглядае суадносіны выдаткаў на абарону з выдаткамі на ахову здароўя ў працэнтах ВУП. Акрамя таго, індэкс улічвае суадносіны колькасці цяжкіх узбраенняў і агульную колькасць насельніцтва краіны — колькі танкаў, самалётаў і сістэм залпавага агню прыпадае на мільён грамадзян. Добра гэта ці дрэнна, што такія вялікія выдаткі наша краіна адпускае на вайну, а не на ахову здароўя, — пытанне спрэчнае.

## Мінэнерга рыхтуе навагодні сюрпрыз

Ужо ў 2015 годзе насельніцтва Беларусі, магчыма, будзе цалкам кампенсаваць выдаткі на электраэнергію. Такое меркаванне выказаў на прэс-канферэнцыі намеснік міністра энергетыкі Беларусі **Вадзім Закрэўскі.**

*"Такая верагоднасць ёсць",* — заявіў прадстаўнік Мінэнерга.

Вадзім Закрэўскі адзначыў, што жыхары краіны па выніках 2014 года, паводле папярэдніх разлікаў, пакрыюць больш за 80% выдаткаў на электрычную энергію.

## Не дурыце ім галаву!

Барацьба са скаргамі набывае ў Беларусі нечаканы абарот. Дзяржава плануе... спаганяць праз суд з грамадзян і юрыдычных асоб выдаткі за шматразовыя неабгрунтаваныя звароты.

Пра гэта паведаміў сёння журналістам старшыня Палаты прадстаўнікоў **Уладзімір Андрэйчанка.** Як высветлілася, адпаведныя папраўкі ў закон аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб ужо падрыхтаваны і разгляд гэтага дакумента чакаецца ў бліжэйшы час. *"Сур'ёзных навацый, у прынцыпе, няма. Адна з іх прапануе ўсталяваць пералік момантаў, па якіх можна праз суд спагнаць выдаткі з заяўніка, калі ён неаднаразова па адным і тым жа пытанні накіроўвае неабгрунтаваныя звароты, гэта адцягвае ўлады ад працы. Але гэта будзе вырашацца ў судовым парадку"*, — паведаміў Уладзімір Андрэйчанка.

Добра вядома, што ў Беларусі ёсць людзі, якія гадамі спрабавалі дабіцца справядлівасці і толькі дзякуючы сваёй настойлівасці і ўпартасці яе дабіваліся. Па новым законе і іх "нейтралізуюць"?

## Нават у БАТЭ праблемы з грашыма?

У Доме футбола прайшло пасяджэнне Камітэта па статусе і пераходах футбалістаў асацыяцыі "Беларуская федэрацыя футбола".

Як паведамілі ў прэс-службе АБФФ, першым пытаннем парадку дня стаў разгляд іску трэнера-фізіятэрапеўта Енса Дэмельта ў дачыненні да футбольнага клуба БАТЭ, які тычыцца выплат запазычанасці па заработнай плаце і прэміяльным.

*"Паводле вынікаў двухгадзіннага абмеркавання члены камітэта прынялі рашэнне даць бакам тыдзень на ўрэгуляванне ўзніклых рознагалоссяў",* — адзначылі ў федэрацыі.

Няўжо фінансавыя праблемы напаткалі нават самы паспяховы беларускі футбольны клуб?

## Фальшывы шпіён

Акруговы суд у Варшаве прызначыў грамадзяніну Беларусі Аляксандру Л. сем гадоў зняволення. Як піша gazeta.pl, беларус пад выглядам супрацоўніцтва з польскай разведкай падманным чынам атрымаў 319 тысяч долараў і 18 тысяч еўра.

Акрамя таго, суд прызнаў яго вінаватым у тым, што ён схіліў разведку да "нявыгаднага распараджэння маёмасцю". Але ў супрацоўніцтве з чужой разведкай яго вінаватым не прызналі.

Паведамляецца, што польская разведка завербавала Аляксандра Л. у 1999 годзе. Да 2007 года ён пастаўляў ёй інфармацыю, якая аказалася няпраўдзівай. Так, ён паведамляў пра меркаваных агентаў Беларусі ў найважнейшых інстытуцыях польскай дзяржавы. Даў фальшывы спіс афіцэраў КДБ і сакрэтныя дакументы Беларусі. Насамрэч, як выявілася, беларус даваў інфармацыю з адкрытых крыніц ды яшчэ і з савецкіх часоў. Ён проста фальсіфікаваў інфармацыю.

Пракуратура збіраецца падаваць апеляцыю на прысуд — абвінавачанне патрабуе для фальшывага шпіёна васьмі гадоў турмы.

SOS!

# Над мемарыялам у Курапатах — зноў пагроза!

Незаконнае будаўніцтва ў ахоўнай зоне Курапатаў стварае небяспеку для гэтага ўнікальнага помніка, якому няма аналагаў у свеце. Гаворка ідзе менавіта пра незаконнае будаўніцтва, бо зямля тут не захоплена забудоўцамі, а прадастаўлена мясцовымі ўладамі з парушэннем закона.

Нагадаем, што ў ахоўнай зоне Народнага мемарыяла забаронена ўсялякае новае будаўніцтва, якое не мае дачынення да гэтай дзяржаўнай нерухомай гістарычна-культурнай каштоўнасці міжнароднага значэння. У ахоўнай зоне помніка забаронена стварэнне пажара- і выбухованебяспечных падземных збудаванняў, якія забруджваюць навакольнае асяроддзе і выклікаюць значныя транспартныя патокі. Тэрыторыя ахоўнай зоны Курапатаў можа быць выкарыстана толькі для ажыццяўлення мерапрыемстваў, звязаных з яе мемарыялізацыяй.

Аднак ласыя кавалкі зямлі, што акаляюць Курапаты, месцяцца ўздоўж МКАД і спакушаюць забудоўцаў. І дзеля задавальнення гэтай спакусы мясцовыя органы выканаўчай улады парушаюць закон і прадастаўляюць зямлю забудоўцам для ўзвядзення аб'ектаў у ахоўнай зоне помніка. Першай тут з'явілася СТАА "БелРэстІнвест", якое з заходняга боку Курапатаў паставіла чатыры дамкі модульнага тыпу, частку будынка рэстарана і дзіцячую пляцоўку аб'екта прыдарожнага сэрвісу з былой назвай "Бульбаш-холл". І хоць 27 лістапада 2012 года Генеральная пракуратура накіравала Мінскаму аблвыканкаму прадстаўленне аб неабходнасці цягам месяца ліквідаваць гэтыя парушэнні заканадаўства, вышэйназваныя пабудовы стаяць і да гэтай пары...

Затым пачалося наступленне на паўночную частку ахоўнай зоны Курапатаў. Каля катэджнага пасёлка "Солнечный" была выпрастана гістарычная дарога на вёску Драздова, траса якой вядома з XVI стагоддзя, і ўзведзены ачышчальныя збудаванні з вадаёмам. Апроч таго, у паўночнай частцы ахоўнай зоны Курапатаў забудоўца "Солнечного" плануе ўзвядзенне новай аўтастаянкі, шэрагу новых жылых дамоў і крамы.

Аднак найбольшую небяспеку для Народнага мемарыяла ствараюць планы будаўніцтва на полі з усходняга боку Курапатаў Міжнароднага выставачнага комплексу. Калі яго праекціроўшчыкі і забудоўцы паўтораць вышэйзгаданыя незаконныя захады сваіх папярэднікаў, у ахоўнай зоне помніка будзе знішчана гістарычная "Дарога смерці" — апошні шлях ахвяраў на згубу.

Што чакае Курапаты ў будучым? Ужо сёння экалагічны стан ляснога масіву выклікае трывогу. Справа ў тым, што мемарыял, аточаны МКАД і дарогай Заслаўе—Калодзішчы, зведвае на сабе вельмі моцны антрапагенны ўціск, які прывёў да разрастання ва ўрочышчы спірэі — расліны-паразіта. Калі ж пачнуць працаваць аб'екты, незаконна ўзведзеныя ў ахоўнай зоне помніка, а таксама вялікі выставачны комплекс, шасейныя развязкі вакол яго і новыя аўтастаянкі ў наваколлі Курапатаў, антрапагенны ўціск на ўрочышча можа ўзрасці да такіх памераў, што шкодныя адкіды проста знішчаць мемарыяльны лес.



### Замест скальпеля — сякера

Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 30—40-х гадоў XX стагоддзя ва ўрочышчы Курапаты было ўзята пад ахову дзяржавы яшчэ ў 1993 годзе. Паводле заканадаўства, ахоўваемы аб'ект мусіць мець яшчэ і зоны аховы, якія рэгламентуюць рэжымы ўтрымання тэрыторый помніка і прылеглых абшараў.

Але на працягу больш як 20 гадоў Міністэрства культуры не зацвердзіла для Курапатаў праект зон аховы. Замест сталага праекта дзейнічае часовая (на перыяд да распрацоўкі горадабудаўнічага праекта стадыі "Дэтальный план") схема зон аховы Курапатаў, зацверджаная пастановай Міністэрства культуры №15 ад 12 мая 2004 года.

Аднак аніякіх часовых схем зон аховы, межы якіх падганяліся б пад інтарэсы забудоўцаў, заканадаўства не прадугледжвае. Згодна з пунктам 3 артыкула 29 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гістарычна-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь", спачатку павінен зацвярджацца праект зон аховы Курапатаў, а ў залежнасці ад яго весціся распрацоўка рознай горадабудаўнічай і землеўпарадкавальнай дакументацыі, рэалізацыя якой можа аказаць уздзеянне на мемарыяльную каштоўнасць. Аднак робіцца наадварот.

Абавязак па распрацоўцы праекта зон аховы Курапатаў ускладзены Міністэрствам культуры на суб'екты гаспадарання, якія ў сваіх інтарэсах плануюць і ўзводзяць аб'екты гаспадарчага прызначэння на недатыкальнай тэрыторыі па часовай схеме зон аховы Курапатаў ад 12 мая 2004 года.

Такім чынам, адпрацаваны адваротны прадугледжанаму законам алгарытм дзеянняў: спачатку рыхтуюцца розныя праекты, а ў залежнасці ад іх — ужо праект зон аховы Курапатаў. Такі падыход вядзе да паступовага звужэння ахоўнай зоны ўнікальнай гістарычна-культурнай каштоўнасці.

Дзейнасць дзяржавы і Міністэрства культуры па ахове спадчыны рэгулюе Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь і закон "Аб ахове гістарычна-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь". Аднак у дачыненні да ахоўнай зоны Курапатаў Міністэрства культуры абапіраецца на нарматыўна-прававы дакумент Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва — закон "Аб архітэктурнай, горадабудаўнічай і будаўнічай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь". Але ж гэты закон у першую чаргу накіраваны не на ахову аб'ектаў спадчыны, а на прававое забеспячэнне дзейнасці суб'ектаў архітэктуры і будаўніцтва.

Так, у перапісцы з грамадскасцю чыноўнікі Міністэрства культуры прызнаюць прыярытэт праектаў зон аховы каштоўнасцяў над іншай горадабудаўнічай дакументацыяй. Менавіта такі падыход закладзены ў законе "Аб ахове гістарычна-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь". Разам з тым дзяржаўныя службоўцы спасылаюцца на закон "Аб архітэктурнай, горадабудаўнічай і будаўнічай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь", што прадугледжвае прыярытэт горадабудаўнічай дакументацыі над праектамі зон аховы помнікаў. Прычым менавіта на гэтай прававой норме грунтуецца дзейнасць Міністэрства культуры ў дачыненні да ахоўнай зоны Курапатаў.

Лагічным працягам такога падыходу з'яўляюцца словы начальніка ўпраўлення па ахове гістарычна-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Ігара Чарняўскага, які на нядаўняй сустрэчы з прадстаўнікамі грамадскасці заявіў, што ў функцыі Міністэрства культуры ўвогуле не ўваходзіць (!) ахова помнікаў, а супрацоўнікі гэтай дзяржаўнай структуры займаюцца толькі ўзгадненнем адпаведных дакументаў...

Такое стаўленне Міністэрства культуры да Курапатаў можна параўнаць хіба з дзеяннямі хірурга, які замест скальпеля аперыруе пацыента сякерай. Вынік такой замены вядомы. Вось чаму і Курапаты безабаронныя перад падобнымі захадамі мясцовага чынавенства, забудоўцаў і службоўцаў Міністэрства культуры.

...Бязвінна рэпрэсаваныя дзяды і бацькі, якія не па сваёй волі ляжаць на курапацкіх пагорках, не маюць аніякай магчымасці адстаяць сябе і нават нічога за сябе сказаць. Адзінае, што могуць гэтыя вартавыя людской памяці, дапамагчы жывым. Дапамагчы сваім сумленнем, годнасцю і высакароднасцю. Дык скарыстаемся гэтай неацэннай дапамогай...

**Марат ГАРАВЫ.**

